НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Нам стала вядома

# Другі з'езд ТБМ

пачаў сваю работу ў Мінску ў Доме літаратара 14 чэрвеня. Яго адкрыў старшыня рэспубліканскай Рады Ніл Гілевіч і ў сваім дакладзе прааналізаваў сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы і стан беларускай мовы на яе фоне сёння, а таксама тое, што было зроблена за два гады існавання Таварыства. У першы дзень выступілі сябры рэспубліканскай Рады, дэлегаты і шаноўныя госці, сярод якіх быў і Старшыня Савета Міністраў БССР Вячаслаў Кебіч. Дарэчы, тут жа, на з'ездзе, ён быў прыняты ў сябры Таварыства і атрымаў пасведчанне, запэўніўшы прысутных, што шанаванне роднай мовы стане яго найпершым асабістым і службовым клопатам.

Сёння з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны працягвае абмеркаванне праблем і здабыткаў на ніве нацыянальнага, культурнага і моўнага адраджэння. На ім прысутнічаюць 260 дэлегатаў і 115 гасцей з усіх абласцей, міністэрстваў, ведамстваў рэспублікі, прадстаўнікі суполак з Казахстана, Ніжняга Ноўгарада, Ленінграда, іншых гарадоў Расіі, з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Польшчы і Вялікабрытаніі.

## Са сваёй тарай

Новае сумеснае савецка-амерыканскае прадпрыемства з'явілася на эканамічнай карце Магілёва.

Называецца яно «Белпак», а створана намаганнямі спецыялістаў Магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» і сусветна вядомай фірмы «Пепсіка». Мэта новага прадпрыемства — выпуск пластмасавых бутэлек для «Пепсі-колы».

Варта адзначыць, што калі сёння ва ўсім свеце штогод выпускаюцца дзесяткі і сотні тон пластмасавай тары для харчовых вырабаў, то ў нашай краіне размовы аб гэтым пакуль не ішло. Так што «Белпак» тут, калі можна так выказацца, «першая ластаўка». Акрамя гэтага, ў Магілёве плануецца зманціраваць і лінію па розліву «Пепсі-колы» магутнасцю 15 млн. бутэлек у год. Але пакуль гэта толькі планы. Зараз жа ідзе падпісанне дагавора, закуп абсталявання.

**Павел МІНЧАНКА.**

Прашу слова

## Што я хацеў сказаць...

Нядаўна на сесіі Вярхоўнага Савета БССР было разгледжана пытанне аб утварэнні камісіі Вярхоўнага Савета БССР па пытаннях абароны і нацыянальнай бяспекі Беларускай ССР. Я даўно рыхтаваўся да выступу па гэтаму пытанню і запісаўся для выступлення, але паколькі на чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР нярэдка парушаецца рэгламент, то слова мне не далі.

Таму я хацеў бы праз «Народную газету» данесці свае думкі і прапановы да выбаршчыкаў.

Якой павінна быць камісія Вярхоўнага Савета БССР па пытаннях абароны і нацыянальнай бяспекі БССР?

Гэта камісія павінна вырашыць цэлы блок пытанняў, падрыхтаваць шэраг законапраектаў, якія павінны забяспечыць правы нашых грамадзян.

Да гэтых законапраектаў можна аднесці наступныя:

1) Закон аб сацыяльнай абароненасці вайскоўцаў і іх сем'яў на тэрыторыі БССР;

2) Закон аб КДБ БССР;

3) Закон аб альтэрнатыўнай службе грамадзян Беларусі;

4) Закон аб канверсіі БССР;

5) пастанова ВС БССР аб маёмасці вайсковага ведамства на тэрыторыі БССР;

6) праект стварэння Нацыянальнай гвардыі Беларусі.

Я бачу Нацыянальную гвардыю як тэрытарыяльнае вайсковае фарміраванне, падпарадкаванае Вярхоўнаму Савету БССР, дзе служаць грамадзяне Беларусі, прычым усе каманды аддаюцца — па-беларуску і дакументацыя вядзецца на дзяржаўнай мове. Галоўная задача Нацыянальнай гвардыі — паступова замяніць войскі грамадзянскай абароны і быць гатовымі ў любы момант прыйсці на дапамогу грамадзянам Беларусі ў розных экстрэмальных умовах.

**Алег ТРУСАЎ,**
**народны дэпутат БССР.**



## От табуреток до спектрометров

### —таков диапазон продукции СП «Анкор»

**Американская фирма «Шерида», польский концерн «Пшимеже» и Белорусское многоотраслевое инженерно-строительное объединение создали совместное предприятие «Анкор», которое ориентировано на выпуск диагностической аппаратуры, лазерной техники, изделий из дерева, теплоэнергетического оборудования и одежды.**

**Презентация предприятия, приуроченная к годовщине его создания, прошла 11 июня в Торгово-промышленной палате БССР.**

Как сообщил генеральный директор «Анкора» Леонид Марковец, предприятие уже наладило выпуск щитовых домиков, досок для пола и оконных блоков. Небольшими партиями идут и кухонные гарнитуры из ясеня. Стоимость их — три тысячи рублей. На производстве мебели применяются немецкие и итальянские станки, закупленные на сумму около миллиона западногерманских марок. Предстоит еще вложить крупные средства в строительство в Тюменской области деревоперерабатывающего комбината. Пока там лишь заготавливается древесина.

По словам Марковца, не менее важная сфера деятельности СП — теплоэнергетика. «Анкор» организовал выпуск теплотехнического оборудования, которое позволит отказаться от центральных тепловых пунктов. Вода будет подогреваться не на ЦТП, а в каждом доме. При этом сократится приблизительно на 20 процентов расход тепла. Ведь сейчас горячая вода по трубам чуть ли не за километры идет к потребителю. Кроме того, весной и осенью из-за отсутствия приборов для регулирования ее температуры, батареи в квартире — не дотронуться. Сейчас, к тому же, никто не учитывает, сколько энергии расходуется на отопление здания: плата по нормативу. «Анкор» же предусматривает использование теплосчетчиков.

Конечно, внедрить подобную систему отопления будет крайне сложно. Особенно если учесть, что у нас в стране никто этим раньше не занимался. По словам Леонида Марковца, здесь необходима поддержка Белорусэнерго и заинтересованность самих потребителей, ЖЭСов.

«Анкор» финансирует также научные разработки в медицине, биологии, физике. Удалось оснастить лабораторию для изготовления некрупносерийного оборудования. Предлагаются клиентам спектрометры, детекторы и лазерные приборы.

Сейчас «Анкор» в основном работает на советский рынок.

Хотя специалисты отмечают, что некоторые изделия могут вполне иметь успех на Западе. Кстати, несколько лазерных приборов уже представлены на Мюнхенской выставке. Если они действительно заинтересуют коммерсантов, то можно рассчитывать на довольно солидную прибыль.

**Виктор ЛЕЩЕНКО.**

Погляд

## Хоць рабочыя і прамаўчаць...

**Сесія Вярхоўнага Савета БССР працягваецца. Увага жыхароў Беларусі да яе то павялічваецца (калі, напрыклад, пачынаецца абмеркаванне Закона аб надзвычайным становішчы ў рэспубліцы), то знікае (калі парламентарыі разглядаюць менш значныя пытанні). У любым выпадку даўно зніклі з плошчы Леніна агароджы, амаль не бачна міліцыянераў.**

Напомнім, яшчэ ў сярэдзіне красавіка мы спрабавалі спрагназіраваць далейшае развіццё падзей. Тады па-рознаму ацэньваліся прычыны выбуху незадаволенасці рабочых у Беларусі, былі розныя меркаванні. Менавіта мы былі амаль упэўнены, што адзіная прычына — чыста эканамічная. Беларускі рабочы толькі тады выйшаў на вуліцу, калі дзяржава бессаромна залезла ў кішэню менавіта яму, калі ён сам на сваёй шкуры адчуў, што жыць стала горш. Ужо пазней, калі цягнік незадаволенасці крануўся, калі рабочыя выйшлі на вуліцу і, на сваё здзіўленне, адчулі, што ўяўляюць значную сілу, з'явіліся палітычныя патрабаванні. Але сёння зразумела, што большасць з тых, што выйшлі на вуліцы, былі далёкімі ад палітыкі. Час пацвердзіў, што выступленні рабочых — гэта проста імгненная рэакцыя на пагаршэнне ўмоў жыцця. Рэакцыя спантанная, а таму такая рэвалюцыйнасць не магла быць працяглай. Не дзіва, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зразумеў гэта і не прыняў катэгарычных ультыматумаў. Урад рэспублікі ў той час рабіў усё магчымае і немагчымае, каб выканаць эканамічныя патрабаванні рабочых, каб затушыць полымя, пакуль не разгарэўся сапраўдны пажар. І, трэба прызнаць, кіраўніцтва рэспублікі справілася са сваёй задачай. Сёння першы стрэс прайшоў. Пачатак сесіі, тое, як новая забастоўка захлынулася, паказваюць, што наш беларускі рабочы клас сапраўды не падрыхтаваны да палітычнай барацьбы.

Успамінаецца пасяджэнне гарадскога забасткама, якое праходзіла вечарам 21 мая. Ужо было зразумела, што парламент фактычна праігнараваў патрабаванні стачкамаў, заставаўся адзіны выхад: ціск, ціск і яшчэ раз ціск на парламент. Але для гэтага трэба, каб людзі прыйшлі на плошчу. А на плошчу яны могуць пайсці толькі тады, калі поўнасцю падтрымліваюць патрабаванні, калі лічаць гэтыя пытанні найгалоўнейшымі.

Мы ведаем, што адбывалася на плошчы Леніна 22 мая. Рабочыя на ёй былі, але не столькі, каб парламентарыі змаглі іх пачуць. Прадстаўнікам стачкама слова не было прадастаўлена...

Што ж будзе далей? Прагнозы, як заўсёды, розныя — ад «Беларусь падымаецца» да «рабочыя прайгралі, застой у рэспубліцы працягваецца». Нам здаецца, што адбылося тое, што і павінна было адбыцца: мы яшчэ раз упэўніліся, наколькі раз'яднаны, непалітызаваны і бяссільны наш народ. Мы яшчэ раз упэўніліся, наколькі цярплівыя, непадрыхтаваныя да палітычнай барацьбы нашы людзі. Добра гэта ці дрэнна? І добра, і дрэнна. Добра, бо пакуль рэспубліцы не пагражае ўсеагульны разбуральны вандалізм. Дрэнна, бо кіруючая эліта можа так і не заўважыць людскую незадаволенасць, не прыняць тэрміновых мер, не адкрыць шлях да сапраўдных рэформ, і тады будзе новы выбух.

Учора парламент усё ж прыступіў да разгляду пытанняў, якія ўключаны ў парадак дня сесіі па патрабаванню стачкамаў. Тое, што абмеркаванне іх ідзе нялёгка — зразумела. Камуністычная большасць і слухаць не хоча аб дэпалітызацыі, дэпартызацыі. Не дзіўна, што прагучала выступленне Аляксандра Лукашэнкі, які заявіў, што група камуністаў-дэмакратаў, членаў Вярхоўнага Савета БССР адмяжоўваюцца ад палітыкі, якую праводзіць ЦК КПБ, і ствараюць сваю фракцыю ў парламенце. Стварэнне новай фракцыі—гэта яшчэ адно яскравае пацверджанне, што праблема існуе (і не залежыць яна ад таго, будуць ці не на плошчы рабочыя). Праблема існуе. І вырашаць яе трэба менавіта народным дэпутатам.

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ,**
**аглядальнік «Народнай газеты».**

## Масква, Кастрама, Угліч

**Падарожжа па мясцінах Максіма Багдановіча наладжвае з 26 жніўня па 3 верасня турыстычная дырэкцыя Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

Агульны працяг маршрута 1873 кіламетры. Запрашаем усіх, хто хоча прыняць удзел у гэтым падарожжы, на цеплаход «Леанід Собінаў». Падрабязнасці па тэлефоне 23-66-21.

**Ларыса ВЯРКОВІЧ.**

Колючее мнение

# Вы этого хотели?

**Много горя выпало**
**на долю нашего народа...**
**Большая беда случилась,**
**когда изгнали Бога**
**и впустили в душу беса**
**под названием «коммунизм».**
**Не отстояли веру и платим**
**за это восьмой десяток лет.**

И неизбежна была революция в нашей стране, ибо уровень цивилизованности, элементарной грамотности народов царской России соответствовал примитивности коммунистического равенства. Не равноправия, а именно равенства, как в стаде. Но равны мы только перед Богом, а между собой у нас должны быть только равные права.

И в других странах — чем неграмотней народ, тем легче в нем приживалась идея коммунизма. В самом деле — чего проще отобрать и поделить. Поровну. Честно. Так и живем.

Спору нет, преобразования в России были необходимы, но эволюционные, а не революционные. Не сдвинул бы нас Октябрь — жили бы мы не хуже Европы и Америки. Чем же иным, кроме строительства светлого будущего, объяснить, что страна, самая богатая природными ресурсами, докатилась до нищеты и повального бегства своих граждан за границу? И ведь бегут в большинстве своем люди талантливые, со светлой головой, большим умом, но которые в нашей стране, оказывается, никому не нужны. Ну что ж, обвиним уехавших 20 миллионов в отсутствии патриотизма: мол, погнались за сытой жизнью. Но разве ТАМ живут меньше патриоты? Почему же от НИХ не бегут и революции ТАМ не делают?

Беда нашему государству, которое не может заинтересовать своих граждан трудиться здесь, в своей стране, государству, которое обманывает трудящихся, платит за труд меньше, чем капиталисты.

Можно, конечно, и дальше говорить о социалистическом выборе, о верности идеалам, но страна уже не встанет на ноги при сохранении нынешней фальшивой экономической системы, исключающей прямую заинтересованность в качественном труде. Только частная собственность на средства производства с ее зависимостью от качества и количества труда способна быстро восстановить, вернее, преобразовать нашу экономику. Иные пути—это продление обмана народа, агония государства. Частная собственность, как никакая другая, ведет к повышению рентабельности производства, исключает раздутые штаты и, конечно, представляет исключительную опасность для нашей администрации. Именно потому раздается их дружный хор о том, что страна не готова, что нужно сначала насытить рынок товарами, накормить страну, вырастить предпринимателя, снабдить фермера техникой и т. д. и т. п., а уже потом... По сути дела, нам предлагают еще раз подкрасить социалистическое общежитие, в фундаменте которого загубленные миллионы его строителей. Подкрасить разваливающееся здание вместо того чтобы дать возможность каждому гражданину строить свой дом, свое дело. И не мешать, а помогать. На добровольной основе, при равенстве всех форм собственности. И никакого разгона колхозов и государственных предприятий. Только равные права, обязанности и налоги. А кто и дальше согласен своим трудом кормить учетчиков и инструкторов — дело хозяйское, себе в убыток. Но при свободных ценах убыток будет больший. От свободных же цен нам не уйти. Если отказаться — это опять «свой» путь, отрицание мирового опыта, блуждание в безвыходном лабиринте социалистического способа производства, эксперимент на своем народе. Частная собственность (скорейшая приватизация), свободные цены и стимулирующие налоги — составляющие скорейшего подъема уровня жизни. Чем быстрее мы это осознаем, чем быстрее откажемся от иллюзий коммунизма, тем быстрее улучшатся наши дела. И ничего нам не надо изобретать, все это уже прошли другие страны — и как налогами производство стимулировать, и как нетрудоспособных защитить — все это известно. Нужно только применить мировой опыт в нашей стране.

Смогут ли нынешние Советы народных депутатов решиться на ТАКУЮ перестройку? Скорее всего нет. Нужны новые выборы на многопартийной основе. Но пока о многопартийности и реальном влиянии других партий, кроме коммунистической, можно только говорить. На примере стран Восточной Европы берусь утверждать, что СЕЙЧАС выборы в нашей республике выиграют коммунисты. Проиграть они могут только в Минске, а в глубинке... Впрочем, возможно, рабочее движение заставит и нынешние Советы решительно двинуться к рынку.

Обращаюсь прежде всего к ветеранам, отцам и матерям нашим. Неужели вы своим каждодневным трудом всего-то и заработали за всю жизнь, что пенсию в 150 рублей? Или это так много? А много ли наследства оставляете вы своим детям и внукам, вы, трудившиеся всю жизнь не покладая рук? Много ли детей и внуков осталось с вами на вашей земле? В вашей хате?

Вы этого хотели?

**Валерий ЗЕЛЕНИН,**
**народный депутат БССР,**
**член Объединенной**
**Демократической партии**
**Белоруссии.**

**Послесловие.** Эта статья была написана для каменецкой районной газеты «Ленинец», но до читателей не дошла.

Хотя в публикации отказано редактором, но, конечно же, не в редакторе дело. А в тех, кто и дальше собирается руководить строительством социализма. Пусть даже в отдельно взятом районе.

# Аб тым, што хвалюе

## На што разлічана

Урадавая праграма выхаду з крызісу і пераходу да рынку не што іншае, як працяг улады каманднa-адміністрацыйнай сістэмы ў падфарбаваным выглядзе. Яна разлічана на тое, каб яшчэ колькі гадоў пратрымацца агульнавядомым у рэспубліцы партапаратчыкам, атрымаць адпаведныя пенсіі з усімі прывілеямі, за якія яны змагаліся і будуць змагацца да канца.

А што тычыцца радавых пенсіянераў, інвалідаў, то яны згодна з гэтай праграмай атрымаюць мізэрныя дабаўкі ў выглядзе нейкіх кампенсацый і індэксацый. Вось так мы і жывём.

**Акім СТАРАХАТНІ,**
**пенсіянер.**

## Кто вспомнит о бедной Флофане

Написал эту фразу, а перед кем слово замолвить об этой одинокой, больной женщине — и не знаю. По идее, о ней должны знать в горсобесе города Барановичи, но таких, как Флофаня Ивановна Василевская, там пруд пруди. Почти всю жизнь она трудилась в колхозе за трудодни, а потом, заработав небольшую пенсию, переехала в город и 17 лет наводила блеск в кабинетах начальников разного ранга. Руки скрутило от этого бесконечного мытья окон, дверей, полов. Сейчас уже одна рука не действует, а тут еще заболевание крови. Второй год она обращается в разные инстанции, чтобы ей отремонтировали квартиру, но получает в ответ одни обещания. На свою пенсию ей уже красок, кистей, лака не накупиться, обои теперь тоже дорогие. Может, найдутся благодетели и реально помогут старушке? Сколько молодых ищут, куда бы приложить силу, а тут человек нуждается, но из-за скромности своей, пройдя через кабинеты очерствевших чиновников в официальных инстанциях, совсем растерялся: куда идти, кого просить? Живет Флофаня Ивановна по улице Брестской, д. 293, кв. 71 в г. Барановичи.

**Сергей АЛЕКСЕЕВ,**
**инвалид II группы.**

## Звычайны вандалізм

Даўно ўжо я не быў у родных мясцінах, але памяць, самі разумееце, на бацькаўшчыну цягне. Мой родны куточак — вёска Іёны Падсолтаўскага сельсавета Мсціслаўскага раёна. Усё там знаёмае і дарагое, усё да драбніц памятаю. Хоць хаты, дзе я нарадзіўся і вырас, ужо няма: памерлі бацькі — памерла і жытло. Але засталіся магілы. Прыехаў — адразу пайшоў на могілкі, дзе пахаваны бацька з маці. Пасядзеў, пагараваў. Потым вырашыў наведаць магілу бабулі з боку маці. Але што гэта? На месцы старажытных вясковых могілак стаіць толькі адна бярозка, а магілкі бязлітасна знявечаны і пераараны плугамі трактара. Трактарыст, пэўна, дакладна выканаў загад старшыні праўлення мясцовага калгаса «Савецкая Беларусь» Гарбатага. Чым кіраваўся ён —не ведаю. Пэўна, меркаваў, што на чалавечых касцях вырасце адмысловы ўраджай. Або на гэтых 20—30 сотках зямлі вырашыў павялічыць калгасныя гоні? І тым самым абразіў памяць продкаў.

**Уладзімір СКУЛЬБЕДАЎ,**
**жыхар Магілёва.**

## В чем мы провинились?

Я мать-одиночка. Живу в Хойниках, сыну моему шесть лет. Три года назад лежали с ним в клинике в Аксаковщине, у него анемия, у меня — хронический бронхит, который появился с осени 1986 года. В Хойниках у всех першит в горле, металлический привкус во рту, а надежда избежать этого лишь в глазах тех, кто верит в скорое отселение.

Справки дают только тем, кому уготовано уже отселение на тот свет — онкологическим. Нас пока Бог милует. Да только не родное правительство. В 1989 году приняли постановление об отселении беременных женщин и с детьми до 14 лет без предоставления жилья. Мне это равносильно смерти— жилья здесь нет, а уж за пределами Хойников кто даст? Не могу я ждать больше, видя, как угасает мой сынок, как слабею сама. И пришла к выводу: лучше жить «бомжем», ночевать на вокзалах и просить милостыню, чем гулять с мальчиком среди радиоактивного пепла. В чем мы провинились, что стали заложниками в лапах безжалостной, хотя и невидимой смерти?

**Алла НОВИК.**

## Мой родны кут, які ты забруджаны

Нёман! Хто з нас не ведае апетую паэтамі раку з яе чыстымі водамі і маляўнічымі берагамі, якая працякае па беларускай зямлі. Яна, без перабольшання, нацыянальная гордасць беларускага народа.

Я люблю гэтыя месцы і часта там бываю. У апошні час няўдзячныя да шчодрай прыгажосці прыроды людзі пры абыякавасці, патуранні арганізацый, што стаяць на варце аховы прыроды, ператварылі берагі Нёмана ў звалку. У пасадках хваёвага лесу і на ўзлеску валяюцца разнастайныя адходы вытворчасці, будаўнічае смецце... Як можна абыякава глядзець на ўсё гэта?!

Кажуць, што ў хворай эканомікі не бывае здаровай экалогіі. Гэта праўда. Але не ад беднасці нашай гэтыя беспарадкі, а ад дрэннага выхавання і разбэшчанасці, ад патурання мясцовых улад.

Мімволі перафразуеш радкі з паэмы Якуба Коласа, які апяваў родны край.

**І. СЛОБАДЭР,**
**ветэран вайны і працы.**
г. Мінск.

## ...А ў школе ёсць конь

Служу я на Далёкім Усходзе, афіцэр. Два браты таксама вайскоўцы, раскіданы па свеце. Але на Беларусі нашы бацькі-пенсіянеры. І маці, і бацька былыя педагогі. Удваіх адпрацавалі ў школе 78 гадоў, маюць узнагароды. Крыўда за іх і прымусіла напісаць.

У маі месяцы я быў дома на адпачынку — якраз садзілі бульбу. Бацька звярнуўся да дырэктара школы № 2 М. А. Лаўрыновіча — у школе ёсць конь. Той паабяцаў даць, калі пасадзяць бульбу работнікі школы. Прайшоў тыдзень і болей, бульбу пасадзілі ўсе настаўнікі і нават родныя дырэктара. Не ведаю, якая ў іх была гаворка, але вярнуўся стары са слязамі...

Бульбу мы пасадзілі, аддаўшы за каня 70 рублёў. Але ж трэба яшчэ па два разы пабаранаваць і абагнаць — дзе ж старыя возьмуць такія грошы, каб за каня заплаціць? Вядома, мы, сыны, бацькам дапаможам, не пакінем у бядзе. Але ж мы так далёка. Хоць газету прасі заступіцца за старых людзей. Паведамляю іх адрас: Мінская вобласць, г. Валожын, Вячаслаў і Людміла Ярашэвічы. Пісаў іх сын Уладзімір.

Прыморскі край.

Банк ідэй

# Дзе вучыцца таму, каму вучыцца не хочацца?

Здавалася, што дзеці, якім вучоба ў школе не па сэрцы, нікога сёння не займаюць — хіба што рэдкіх адзіночак, падобных У. Р. Вайлю, дырэктару мінскай СШ № 28, пра якога расказвала «Народная газета».

Але, на шчасце, я памылілася. Выхаванне па Вайлю — міласэрная педагогіка, якая дазваляе знайсці поспех кожнаму, нават не вельмі здольнаму да вучобы, спадабалася і педагогам, і бацькам.

Расказвае дырэктар мінскага вучылішча будаўнікоў № 24 Аляксандр Міхайлавіч Пузырэўскі:

— Сёлета мы ўпершыню плануем прыняць дзве групы выпускнікоў шостых класаў. Набіраем з дапамогай анкетавання тых дзяцей, якім нецікава вучыцца. Дарэчы, яны часта паказваюць даволі высокі інтэлектуальны ўзровень, але адзнакі маюць дрэнныя. Гэтым дзецям наканавана ПТВ. Але прыйдуць да нас пасля васьмі класаў педагагічна запушчаныя падлеткі, страціўшы і час, і ўпэўненасць у сабе. Выпраўляць гэтую запушчанасць цяжка. Лепш, на наш погляд, адразу, як толькі намеціўся канфлікт са школьнай праграмай, прапанаваць іншую.

Якую? ПТВ плануе даць, акрамя «школьных» прадметаў, не адну-дзве, а цэлы блок агульнабудаўнічых спецыяльнасцей, попыт на якія абяцае быць стабільным. Чаму пазбягаюць звычайнай спецыялізацыі? Каб пашырыць сацыяльныя гарантыі будучых выпускнікоў — майстроў на ўсе рукі. Чым яшчэ адметны гэты курс навучання? Па-першае, тым, што ён карацейшы на год. Па-другое, у яго планах — абавязковыя гадзіны эстэтычнага выхавання. Навошта гэта будучым мулярам і малярам? Каб за межамі будаўнічай пляцоўкі яны не адрозніваліся ад сваіх аднагодкаў з больш прэстыжных навучальных устаноў.

Прынамсі, ПТВ № 24 таксама ў непрэстыжныя не залічыш, хаця заганы будаўнічай галіны адбіваюцца і тут. І ўсё ж старэйшае ў рэспубліцы вучылішча мае чым ганарыцца: добра абсталяваныя класы і майстэрні, інтэрнат, клубы і гурткі. Нават хор тут зайздросны—акадэмічны.

Дасягненні пералічаны недарэмна: падзяліцца ўсім, чым багатае, вучылішча мае намер з шасцікласнікамі, якіх сёлета чакае.

Тыя, каму вучыцца не хочацца, магчыма, тут адчуюць асалоду, набываючы веды і ўменне.

**Ірына ЧАБАНОВІЧ.**

Есть вопрос

## Не проехать, не пройти

Так можно сказать о многих дорогах Могилева. Это потому, что отдельные организации проигнорировали решение горисполкома о ремонте городских дорог. Из 48 улиц ремонт выполнен только на 14, на 10 лишь начат. Возмутившись таким положением, водители городского троллейбусного парка выдвинули требование отремонтировать все дороги по маршрутам троллейбусов до 20 июня. Если требование не будет выполнено, в этот день троллейбусы не выйдут на линию.

**Николай КОМЛЕВ.**
г. Могилев.

Таможня

## Спекулянтам придется раскошелиться

● 7 июня на станции Гродно Белорусской железной дороги у жительницы города Уфа Г. Н. Гамиашиной изъято приобретенной на рынке женской одежды на сумму 7500 рублей. Решением народного суда она оштрафована на 5000 рублей с конфискацией товара.

● С 3 по 9 июня контрольно-пропускными пунктами выявлено 37 фактов незаконного вывоза товаров народного потребления. Изъято товаров на 178,1 тысячу рублей, в том числе: сложно-бытовой техники на 6,3; строительных материалов на 1,1; одежды на 164,3; обуви — на 0,6; продовольственных товаров — на 3,8 тысячи рублей. Наложено штрафов на сумму 59,0 тысяч рублей.

● Органами внутренних дел выявлено 38 случаев реализации товаров, продукции, сырья, материалов со складов, баз, подсобных помещений предприятий и организаций торговли, 61 случай торговли с рук по завышенным ценам товарами, изготовленными на государственных, кооперативных предприятиях.

● Всего с 3 по 9 июня выявлено 146 случаев нарушения Закона БССР «О временных мерах по защите потребительского рынка Белорусской ССР».

**Борис КЕНЖЕТАЕВ.**

Вы слышали?

## Азарта нам не занимать

**Похоже, что в скором времени Пинск ожидает возникновение еще одного дефицита. Но только не товарного и не продовольственного, а дефицита почтовых бланков на отправку денежных переводов.**

Дело в том, что большинство горожан с азартом включились в денежную игру, предложенную Рижским супер-систем банком, По переводам, сумма в которых одинаковая — 300 рублей, можно изучать географию Советского Союза. Охваченные жаждой обогатиться без каких-либо усилий и затрат, «в акции» играют в Пярну и Паневежисе, Риге и Вильнюсе, Минске и Бресте и даже на Урале.

В автобусах, магазинах, на остановках и в учреждениях нет более популярной темы, чем о продаже и покупке акций с пометкой супер-систем банка. Получить 77 тысяч оказалось немало желающих не только среди простых горожан, азарт по-настоящему охватил даже некоторых ответственных работников.

Так что стоит ли удивляться доверчивости Буратино, который понадеялся, что из одной монетки вырастет на волшебном поле множество...

**Валентина СЕЛЮЖИЦКАЯ.**
г. Пинск.

